

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№ 7 (136), ТРАВЕНЬ 2012 ГОДА

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ЦЯГНУЦЬ УСЁ, ШТО ДРЭННА ЛЯЖЫЦЬ

**У райвыканкаме адбылася нарада, на якой у першую чаргу былі разгледжаны пытанні прафілактыкі крадзяжоў. У ходзе прынцыповай размовы было высветлена, што ў раёне павялічылася колькасць крадзяжоў як дзяржаўнай, так і асабістай маёмасці.**

У прыватнасці, галоўны пракурор раёна Яўген Гуляеў паведаміў сумную статыстыку крымінальных зводак па вобласці. Як вынікае з аналізу сітуацыі, у мінулым годзе на Віцебшчыне здзейснена 9059 крадзяжоў, пры гэтым іх колькасць няўхільна павялічваецца. У Шумілінскім раёне адпаведна было зарэгістравана 650 крадзяжоў, у тым ліку 24 – прыватнай формы ўласнасці.

Як правіла, зламыснікі шчыруюць там, дзе няма аховы і цягнуць усё, што дрэнна ляжыць. Аналіз за апошнія тры месяцы паказаў, што ў бягучым раёне ўжо здзейснены 44 крадзяжы, на 1 больш, чым у мінулым годзе. Апроч таго, кіраўнік раёна Уладзімір Куранны агучыў яшчэ адзін паказчык, які значна ўскладняе крымінагенную статыстыку. Насцярожвае той факт, што агульная злачыннасць па вобласці складае 31, 4 на 10 тысяч насельніцтва, а па Шумілінскім раёне – 42,5. У сваю чаргу першы намеснік начальніка РАУС І. Шаціла даводзіў, што паказчык раскрываемасці крадзяжоў на 18 адсоткаў усё ж вышэй, чым сярэдні па вобласці.

Варта нагадаць, што крадзяжам з жылых памяшканняў спрыяе абыякавасць гаспадароў, якія пакідаюць без нагляду каштоўныя рэчы ў бацькоўскіх дамах у аддаленых вёсках, на дачах. Пасля, калі выяўляецца факт злачынства, гаспадары не могуць указаць нават месяц, калі зніклі рэчы, а гэта, у сваю чаргу, ускладняе пошук зламысніка.

Рэгулярна паступаюць у міліцыю паведамленні аб крадзяжах сельгаспрадукцыі. Асноўныя прычыны і ўмовы крадзяжоў з аб'ектаў аграпрамысловага комплексу банальныя – іх недастатковая тэхнічная ўмацаванасць. Пры гэтым нярэдка на ведамасных аб'ектах адсутнічае ахова, а нядбайныя адносіны па забяспячэнні маёмаснай бяспекі з боку адказных асобаў таксама спрыяюць росту злачыннасці. Дагэтуль на многіх гаспадарчых аб'ектах не зачынены падвалы, няма сігналізацыі, адкрыты доступ на тэхнічныя паверхі.

Дарэчы, старшыня Шумілінскага райвыканкама Уладзімір Куранны асноўны упор робіць на гэтак званую выканаўчую дысцыпліну. Апошнім часам ён прысвяціў арганізацыі работ і навядзенню парадку дзве нарады, якія адбыліся 10 і 14 траўня.

Вядома, што стабільнае паляпшэнне сітуацыі з крадзяжамі магчыма толькі тады, калі кожны кіраўнік, кожны грамадзянін будзе пастаянна дбаць аб надзейным захаванні маёмасці, як дзяржаўнай, так і сваёй, а не спадзявацца толькі на Дэпартамент аховы. Таму і ўладзе на ўсіх узроўнях неабходна быць больш патрабавальнай тут. Асаблівa ў плане прафілактыкі, папярэджванні магчымых крадзяжоў.

Практыка паказала, што найбольш тыповыя сітуацыямі ўчынення пазначанага віду злачынстваў з'яўляецца спантаннае рашэнне зламыснікаў, якія часцей за ўсё знаходзяцца ў стане алкагольнага ап'янення, пажывіцца за чужы кошт.

Украдзенае амаль адразу ж рэалізуецца, а грошы зноў ідуць на п'янкі. Нельга не адзначыць і той факт, што пэўным чынам не кантралюецца правапарадак на месцах. Не сакрэт, што асоб, схільных да проціпраўных дзеянняў у вёсках, як правіла, усе ведаюць. І калі б яны пастаянна адчувалі нагляд і кантроль з боку ўчастковых, прадстаўнікоў мясцовай улады і грамадскасці, то многія крадзяжы можна было б папярэдзіць. Самі грамадзяне павінны таксама быць больш пільнымі. Да прыкладу, пра крадзяжы веласіпедаў не аднойчы гаварылася. Але ж гаспадары працягваюць пакідаць свае транспартныя сродкі без нагляду і, у выніку, падштурхоўваюць нядобрасумленных грамадзян на злачынства. Як правіла, усе крадзяжы чыняцца ў грамадскіх месцах, дзе гаспадары пакідаюць веласіпеды на "пару хвілін", ці каля прыватных дамоў, з пад'ездаў шматпавярховікаў.

Зразумела, садзейнічаць выпраўленню ўказаных недахопаў будуць не толькі прафілактычныя меры ўздзеяння кіраўніцтва раёна, але і цвёрдае ўсведамленне таго, што ад кожнага залежыць дасягненне бяспекі і стабільнасці ў грамадстве.

**Аляксандр Шчамлёў.**

КРЫМІНАЛ

## Затрымалі ўхіліста

Супрацоўнікі транспартнай міліцыі знайшлі жыхара Шуміліна 1987 года нараджэння, які ўхіляўся ад службы ў войску. Маладога чалавека затрымалі на станцыі Віцебск пры выхадзе з цягніка Санкт-Пецярбург-Львоў.

## Крадзёж у вясковым доме

22 траўня ў Шумілінскі РАУС звярнулася жыхарка Новаполацка з заявай аб тым, што ў вёсцы Пагіршчына абрабавалі яе дом. Невядомы зламыснік сарваў навясны замок, залез у хату і скраў дзве вадзяныя помпы, малочную флягу, электрачайнік і прадукты харчавання. Папярэдне ўстаноўлена, што злачынства ўчыніў непрацуючы, раней асуджаны за крадзёж жыхар вёскі Балотнікі. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 205 частка 2 КК.

## Скралі, выпілі – у турму

Ноччу 26 красавіка невядомыя праламалі дах і праз паталочнае перакрыццё трапілі ў магазін Шумілінскага райпо, які размешчаны ў вёсцы Жданаўка. Зніклі спіртовыя напоі, цыгарэты і прадукты харчавання. Як высветлілася ў ходзе вышуку, злачынства здзейснілі жыхар вёскі Мішнявічы і непрацуючы, раней асуджаны за крадзёж жыхар вёскі Казьяны. Распачата крымінальная справа па артыкулу 205 частка 2 КК.

ВЫКАНАННЕ МЯСЦОВАГА БЮДЖЭТУ

## Сацыяльныя арыенціры для выканання бюджэту вызначаны

**Захаванне стабільнасці ў сацыяльна-працоўнай сферы – галоўная мэта мясцовай улады. Таму раённы бюджэт на 2012 год паранейшаму захоўвае сацыяльную накіраванасць. Фінансавыя сродкі найперш расходуюцца на падтрыманне жыццядзейнасці сацыяльна-культурных установаў. Але сёлета сродкаў будзе выдзелена менш, чым у мінулым годзе.**

Асноўнымі характарыстыкамі бюджэту Шумілінскага раёна на 2012 год з'яўляюцца: збалансаванасць расходаў бюджэту з даходамі (кансалідаваны бюджэт раёна спрагназаваны на бездэфіцытнай аснове)

Між іншым, дасягненне прагнозных паказчыкаў, якія зацверджаны рашэннем сесіі раённага Савета дэпутатаў і распараджэннем райвыканкама магчыма толькі пры ўмове мэтанакіраванага павышэння эфектыўнасці гаспадарчай дзейнасці ва ўсіх галінах эканомікі, зніжэнні вытворчых затрат, рацыянальнага выкарыстання наяўных рэсурсаў. Даходы бюджэта прагназуюцца ў памеры 47,1 мільярдаў рублёў. Структура даходаў бюджэту не пацярпела істотных змяненняў. Асноўнымі крыніцамі з'яўляюцца: падаходны падатак (40,6%), падатак на дабаўленую вартасць (30,7%), падатак на прыбытак (3,4%), падаткі на ўласнасць (10,9%).

На працягу апошніх гадоў прыярытэты бюджэту Шумілінскага раёна, бадай што, прынцыпова не змяняюцца. Аналіз прагнозных паказчыкаў паказаў, як штогод захоўваецца скіраванасць бюджэту на сацыяльную сферу. З пачатку 2012 года больш за 66,5% сродкаў ад агульнага аб'ёму расходаў бюджэта раёна было выдзелена на сацыяльныя патрэбы. Усяго на патрэбы сацыяльна-культурнай сферы пайшло 24,4 мільярды рублёў. Для параўнання: у 2011 годзе было 75,8%, а ў 2010 – 66%, у 2009 – 69%. Па ўсяму бачна, што назіраецца тэндэнцыя зніжэння расходаў.

Аднак з пачатку года ўдалося забяспечыць своечасовую выплату заработнай платы, адпускных і іншых сацыяльных выплат работнікам бюджэтнай сферы, нягледзячы на інфляцыйныя працэсы ў эканоміцы.

Расходы кансалідаванага бюджэту за студзень-сакавік ужо склалі 36,6 мільярдаў рублёў. Найбольшая яго частка была выдаткавана на выплату заработнай платы – 17,1 мільярдаў рублёў. Астатнія бюджэтныя сродкі расходаваліся на субсідыі дзяржаўным арганізацыям – 8,7 млрд. руб. (23,7%), аплату камунальных паслуг – 5,9 млрд. руб (15,9%). Мясцовым органам кіравання пярвічнага ўзроўню рэкамендавана працягваць работу па збору сродкаў самаабкладання, якія будуць з'яўляцца дадатковай крыніцай фінансавання ў вырашэнні пытанняў жыццезабеспячэння насельніцтва. Наогул, даходная частка бюджэту раёна сфарміравана дастаткова напружана і разлічана на максімальную паўнату паступлення падаткаў і збораў. Аднак разам з тым расходная частка прадугледжвае жорсткую эканомію бюджэтных сродкаў. Наперадзе яшчэ тры кварталы. Няма цвёрдай упэўненасці ў тым, што да канца года грамадзяне пачуюць ад чыноўнікаў: "Бюджэт трашчыць, і сродкаў не хапае. Трэба тэрмінова ўносіць карэктывы, або прасіць дадатковыя асігнаванні на завяршэнне важнейшых мерапрыемстваў".

**Я. Вайтовіч.**

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Світанка» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам***

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

# На мяжы банкруцтва

**Обальскі керамічны завод ужо не адзін год працуе ў рэжыме банкуруцтва. Неаднаразова рабіліся сур'ёзныя спробы па вываду прадпрыемства з зацяжнога крызісу. Зараз завод працуе толькі дзякуючы падтрымцы дзяржавы, абласных і раённых уладаў. Але намаганні чыноўнікаў не выратоўваюць сітуацыю. Інвестары таксама не ідуць.**

Нядаўна ОКЗ наведала інфармацыйная група з райвыканкама, якую ўзначаліў кіраўнік раёна Уладзімір Куранны. Працоўны калектыў занепакоены лёсам прадпрыемства, звальненнем рабочых, таму прадстаўнікі мясцовай улады павінны былі прымаць нейкія меры, каб зняць сацыяльную напружанасць. Вось і на гэты раз кіраўнік раёна супакоіў абальчан, калі заверыў, што завод будзе працаваць. Падобныя заявы ўжо былі. У недалёкім мінулым на прадпрыемстве пабываў былы прэм'ер міністр Сяргей Сідорскі, які таксама абяцаў наладзіць працу завода. Але і воз зараз там. Састарэлыя тэхналогіі, якія не даўно адпавядаюць сучасным патрабаванням да якасці прадукцыі, высокія энергазатраты і рост цэн на энерганосьбіты зрабілі прадукцыю завода неканкурэнтаздольнай на рынку. Праўда, цэгла пакуль што адгружаецца спраўна. Штодзень рэалізуюць 250 тысяч на 800 мільёнаў рублёў. Але заробкі застаюцца нізкімі. Для іх павышэння трэба нарошчваць вытворчыя магутнасці, але для гэтага не была своечасова праведзена рэканструкцыя.

У свой час спадзяваліся, што справы пойдуць лепей, калі да завода далучаць расонскі філіял. Аднак неўзабаве стала яшчэ горш – удвух трапілі у даўгавыя ямы. Да прыкладу, за прыродны газ завод завінаваціўся 27 мільярдаў рублёў. Пакуль што з дапамогай уладаў удалося дабіцца адтэрміноўкі доўгу, але ці дапаможа разарваць гэта мера замкнутае кола праблем?

Па-першае, прадпрыемства абмінаюць інвестары. Падругое, новай хвалі скарачэння работнікаў завода наўрад ці ўдасца пазбегнуць. Дарэчы, калектыў завода ўпарта адмаўляецца ад прапаноў начальства па працаўладкаванні. Абальчане хочуць захаваць завод, само мястэчка Обаль як гарадскі пасёлак. Усіх хвалюе рытарычнае пытанне:"Ці прывядзе хранічнае банкруцтва да поўнага спынення вытворчасці і закрыцця прадпрыемства?"

Занадта доўга рабілі стаўку на ранейшую, састарэлую вытворчаць, а гэтага было яўна недастаткова. Трэба было адпаведным чынам мадэрнізаваць яе, прычым з арыентацыяй на тое, каб можна было выпускаць сучасныя матэрыялы, як гэта зрабілі ў іншых раёнах краіны. Сучасныя тэхналогіі патрабуюць новыя віды прадукцыі: буйнапамерную цэглу, парызаваныя керамічныя матэрыялы, газасілікатныя блокі.

Але каму было рухаць справу далей? Куды падзеліся ініцыятыўныя спецыялісты?

Не сакрэт, што ў нашым раёне нямала прадпрыемстваў-банкрутаў. Але ж яны фінансуюцца і падтрымліваюцца дзяржавай. Там выплочваецца мінімальны заробак, і людзі проста да гэтага прызвычайваюцца. Але маладыя не пагаджаюцца і з'язджаюць, шмат хто накіроўваецца ў Расею. Вяртацца назад на працу ў родныя мясціны не збіраюцца.

**Алесь Прыбярэжны.**

ДУХОЎНАЕ ЖЫЦЦЁ

# ДАВАЙЦЕ ПАБУДУЕМ ХРАМ

**18 траўня адбылася самая значная падзея ў духоўным жыцці нашага раёна. Быў закладзены першы камень пад будаўніцтва праваслаўнага храма. Пад новую святыню мясцовай уладай выдзелена месца ў цэнтры Шуміліна.**

Урачыстая цырымонія пачалася хросным ходам, затым прайшла літургія і асвяшчэнне першага закладзенага каменя ў фундамент узводзімага храма. Храм Сьвяціцеля Мікалая Цудатворцы плануюць узвесці за два гады. А пакуль на месцы будучай святыні – на скрыжаванні вуліц Ленінская і Луначарскага ўстаноўлены крыж. Дарэчы, шумілінцы дагэтуль не маюць магчымасці ў сваім гарадку пабываць на богаслужэнні у сапраўдным храме.

Ва ўсе часы хрысціянін напачатку сваіх спраў абавязкова звяртаўся ў малітвах да Усявышняга за Гасподнім блаславеннем. А тым больш, калі задумвалася будаўніцтва храма Божага. Менавіта вера дапамагала чалавеку перажываць нялёгкія часы, давала сілы для творчай працы. Пра гэта казаў у звароце да прыхажан сакратар Віцебскага епархіяльнага ўпраўлення протаіерэй Уладзімір Рэзановіч. Таму само сабой атрымліваецца, што паўдзельнічаць у будаўніцтве храма – вялікі дар Божы для кожнага чалавека. З удзячнасцю будзе прынята любая дапамога. Бо заўсёды храмы будаваліся на "пятаки", гэта значыць на малыя ахвяраванні прыхаджан, дабрачынцаў, улад і ўсіх Богалюбівых чадаў праваслаўнай царквы. Кожны ўдзел у будаўніцтве храма, нават навядзенне парадку на яго тэрыторыі, будуць мець ўзнагароджанне Божае ў асобных справах дабрачынца: здароўі, дабрабыце, ахове ў дарозе і іншых жыццёвых патрэбах.

Пажадаем моцы шумілінцам давесці добрую справу да канца, адчуць свой уласны непасрэдны ўклад у святыню. І будзем спадзявацца, што новы храм на Шуміліншчыне дасць магчымасць усім прыхаджанам раёна здзяйсняць хрышчэнне, вянчанне, пакаянне і прычашчэнне Святых Хрыстовых таямнічасцяў, узносіць святыя малітвы да Госпада аб здароўі, міры, любові і дабрабыце ўсіх і ўсея.

**С. Горкі.**

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# СВЯТА ВУЛІЦЫ АБ'ЯДНАЛА ШУМІЛІНЦАЎ

**"Разам на Ленінскай" – пад такой назвай прайшло свята галоўнай вуліцы Шуміліна, якое ладзілі мясцовыя ўлады. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел кіраўніцтва раёна, госці і жыхары горада.**

Свята вуліцы – гэта тэатралізаванае відовішча з удзелам вялікай колькасці выканаўцаў, гледачоў і гасцей, звязанае са святкаваннем памятных і юбілейных дат.

Сімвалічна, што менавіта мясцовая раёнка "Герой Працы", якой сёлета спаўняецца 80-гадоў, выступіла з ініцыятывай сустракаць кожную вясну святочнымі мерапрыемствамі.

У гэтую традыцыю ўнесла свае карэктывы і адміністрацыя райвыканкама. Па прапанове яе кіраўніка Уладзіміра Куранного вырашылі штогод даводзіць да ладу некалькі вуліц горпасёлка, а затым урачыста адзначаць завяршэнне добрай справы.

А справа пачалася з цэнтральнай вуліцы Ленінскай. Яшчэ адна падзея была прыурочана да свята – закладка камен пад будаўніцтва будучага храма. У гонар узвядзення новага храма адбылося шэсце праваслаўных вернікаў.

Варта нагадаць, што на вуліцы Ленінскай размешчана раённая бібліятэка, у яе супрацоўнікаў таксама ёсць нагода разам з чытачамі адзначыць Год кнігі. Сёлета шумілінскім бібліятэкарам і чатачам пашанцавала – установа атрымала сертыфікат на набыццё кніг і перыёдыкі на суму звыш 330 мільёнаў рублёў. Святочны настрой гледачам ствараюць касцюміраваныя героі кніжак, якія ўручалі прызы пераможцам віктарын, разгорнутыя выставы народных майстроў, вулічны гандаль.

Шмат цёплых слоў было сказана ў адрас заслужаных людзей, якія пражываюць на вуліцы Ленінскай. Гэта ў першую чаргу тычылася ветэранаў вайны і працы. У гады вайны на вуліцы разгортваліся драматычныя падзеі: за нямецкай акупацыяй тут размяшчалася ваенная камендатура, а пасля баёў засталіся адны руіны. Вуліцу, як і ўвесь горпасёлак давялося адбудоўваць занава.

Напярэдадні свята быў праведзены агляд-конкурс на дом ўзорнага парадку. Руплівым гаспадарам, якія занялі прызавыя месцы, уручылі памятныя дыпломы і падарункі. Кіраўнік раёна Уладзімір Куранны ў сваім выступе перад жыхарамі Шуміліна адзначыў поспехі тых прадпрыемстваў, чые офісы месцяцца на галоўнай вуліцы. Сярод іх "Віткопрадукт", райпо, лясгас, філіял Віцебскпаліўзбыт". Увогуле, на Ленінскай размешчаны найбольш значныя аб'екты інфраструктуры райцэнтра: аўтавакзал, два банкі, крамы, цэнтр дзяцей і моладзі, бібліятэка, архіў, гасцініца. І ўсе работнікі ўстаноў рыхтаваліся да свята не адзін дзень, наводзілі парадак ля будынкаў, упрыгожвалі прылеглыя тэрыторыі.

Свята ўдалося. Не так часта жыхары пасёлка маюць магчымасць для такога масавага адпачынку –круглы год спраў, клопатаў хапае. У многіх застануца прыемныя ўспаміны. Аднак нямногія ўсведамляюць, што старая назва вуліцы ідалам чужацкай гісторыі зусім не спрыяе іміджу культурнага аблічча райцэнтра. Ды і мабыць няма патрэбы падрабязна распавядаць нашаму чынавенству, кім быў галоўны правадыр бальшавіцкага перавароту ў Санкт-Пецярбургу Ульянаў-Ленін. Яны самі выдатна разумеюць, што ў 21-м стагоддзі такія назвы толькі тармозяць адраджэнне духоўнай спадчыны беларускага народа. Зразумела, што і перайменаванне вуліц, і снос помнікаў дыктатарам камунізма патрабуе немалых грошай. Аднак гэта не перашкодзіла ў свой час правесці перайменаванне калгасаў, калі дарэчы, адзін з іх называўся "Ленінскі прызыў". Дык чаму гэта высакародная справа па ачышчэнню нашага раёна ад прапагандысцкіх назваў савецкай казармы была замарожана?

**Алесь Шумскі.**

НАША ЭКАЛОГІЯ

# АТРУЧАНЫЯ РЭКІ

**Ахова расліннага і жывёльнага свету знаходзіцца пад кантролем дзяржавы. Але інспектары не спяшаюцца бараніць прыроду ад дзейнасці нядбайных кіраўнікоў на тых прадпрыемствах, дзе пануе безгаспадарчасць, якая часта прыводзіць да тэхнагеннай катастрофы. Гноевыя сцекі з жывёлагадоўчага комплекса "Лаўжанскі" ужо некалькі гадоў сплаўляюць у рэкі.**

Такі некантралюемы паток забруджаных сцёкаў стварыў рэальную экалагічную пагрозу. Праз перапоўненыя басейны-накапіцелі гной па меліяратыўным каналам сплаўляеецца прама ў малыя рэкі. Але ж гэтыя рачулкі праз прытокі ўпадаюць у Обаль і Западную Дзвіну. Ці ёсць гэта пагроза масавай гібелі рыбы ў рэках?

Яшчэ мінулай восенню начальнік Шумілінскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Генадзь Кісялевіч тлумачыў сітуацыю сталічнаму тэлеканалу СТВ. "Усё залежыць ад ступені забруджавання. Калі гноевыя сцёкі могуць трапіць у раку, то натуральна, развіццю жывёльнага і расліннага свету гэта не спрыяе". Прасцей кажучы, раённы наменклатуршчык абмежаваўся адгаворкай. Але ж забруджаныя стокі ўжо даўно ў рэках! Дзве малыя рачулкі Будавіца і Чэрчыца перасталі існаваць як натуральныя прыродныя вадаёмы ператварыліся ў тэхнічныя сцёкавыя канавы.

Па словах мясцовага аматара рыбнай лоўлі Пятра Кавалёва некалі ў гэтых рэчках ён лавіў нават маленькіх самоў. Але зараз вудачкі прыйшлося зматаць: няма ніякай жыўнасці, не тое што рыбы не засталося – жукі не хочуць жыць у забруджаных вадаёмах.

Як высветлілася, кіраўніцтва ААТ "Лаўжанскае" сваімі сіламі з гэтай праблемай справіцца не можа. У мінулым годзе на рэканструкцыю ачышчальных збудаванняў асвоілі 784 мільёны рублёў. Аднак чаму тады ў гаспадарцы гадамі не вывозілі гной ад жывёлы, калі сістэма выдалення дала сбой? Больш як за 150 тысяч тон арганікі накапілася ў чэках – адыходы не паспявалі расшчапляцца на фракцыі. Дырэктар гаспадаркі Вячаслаў Долгі бачыў выхад з сітуацыі ў набыцці шасці трактароў энергаёмістай тэхнікі, бочак па 16 тысяч тон і сітэматычны вываз на палі фільтрацыіі, пакуль ачыстныя не запрацуюць на поўную магутнаць. Аднак тэхнічную дапамогу гаспадарка не атрымала – на вывазцы арганікі працавалі ўсяго два-тры трактары, якія за дзень паспявалі вывезці ўсяго 200 тон арганікі. На большае ў прадпрыемства сродкаў не знайшлося.

Між тым, рэканструкцыя ачышчальных збудаванняў да вясны 2012 года не была завершана, і паток нечыстот разам з расталым снегам зноў сыйшоў у рэкі. Напрыканцы лютага ў ААТ "Лаўжанскае" прайшоў справаздачна-выбарчы сход, на якім былі пастаўлены новыя задачы па нарошчванню аб'ёмаў прадукцыі жывёлагадоўлі. Аднак пра тэрміны завяршэння рэканструкцыі ачышчальных збудаванняў пытанне не ўзнімалася. Па ўсяму бачна, што да здачы ў эксплуатацыю ўсіх чатырох ступеняў біяінжынерных збудаванняў яшчэ далёка. Для заканчэння ўсяго комплексу работ яшчэ спатрэбяцца дадатковыя капіталаўкладанні, тэхніка і брыгады спецыялістаў. А пакуль што неачышчаныя бруд з фермаў працягвае атручваць навакольнае асяроддзе. Гной дае штуршок для развіцця кіслародапаглынаючых водарасляў, у выніку непазбежна адбудзецца далейшая доўгатэрміновая дэградацыя вадёмаў і гібель рыбы.

**С. Горкі.**

## Прыватныя абвесткі

**Прадаецца:**

***Шумилино гп,* 2-комнатная квартира, 3/3 эт., пан., 49/28/7 кв.м, лодж., тел., улучш. проект, кабельное ТВ, подвал, Тел.8-10-372-57403673Оболь гп, сруб, р-р 6х8 м, возможность подвода всех коммуникаций, рядом автовокзал, Тел.8-029-614-84-29...**

***Шумилино гп.* Участок, 25 сот., крытый шифером**

***Язвино д., Шумилинский р-н.,* Участок, 25 сот., 20 км от Витебска, сруб дома, берег Двины, Тел.8-029-598-45-35, МТС.**

ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ

# ЯКІЯ ПАРАДКІ ЧАКАЮЦЬ СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКУ Ў «БЕЛЫМ ЛЕБЕДЗІ»?

ДЛЯ АДБЫЦЦЯ ПАКАРАНЬНЯ АКТЫВІСТА КХП БНФ СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКУ ЗЬМЯСЦІЛІ Ў МАГІЛЁЎСКУЮ КАЛЁНІЮ № 19, ВЯДОМУЮ Ў НАРОДЗЕ ЯК БЫЛЫ ЛТП «БЕЛЫ ЛЕБЕДЗЬ».

21 траўня маці вязьня Лідзія Каваленка атрымала ў віцебскай управе Дэпартамэнту выканaньня пакараньняў зьвесткі пра тое, куды накіравалі яе сына Сяргея для адбыцьця пакараньня:

19 траўня Сяргея Каваленку накіравалі па этапе зь Віцебскага СІЗА, але куды дакладна — не паведамлялі. Сёньня апоўдні жонка Сяргея Каваленкі Алена ўжо званіла ў Магілёўскую 19-ю калёнію, дзе ёй пацьвердзілі, што яе муж там: «Я ўжо туды тэлефанавала сама. Там ён. Але падрабязна яны нічога не распавялі. Ані пра стан здароўя, ані пра галадоўку. Толькі сказалі, што ў іх, у карантыне». Больш пэўныя зьвесткі пра стан здароўя мужа і тое, ці працягвае ён галадоўку, Алена Каваленка спадзяецца атрымаць ад адваката.

Якія ўмовы ўтрыманьня чакаюць Сяргея Каваленку ў 19-й Магілёўскай калёніі?

У гэтай калёніі летась цягам некалькіх месяцаў адбываў пакараньне былы кандыдат на прэзыдэнта Дзьмітрый Вус. Дзьмітрый Вус узгадвае: «Раней там быў лячэбна-працоўны прафілякторый. „Белы лебедзь“ клічуць гэтую калёнію, як раней называлі ЛПП. Там нават ёсьць скульптура лебедзя, яшчэ захавалася на тэрыторыі. Начальнікам калёніі там Чарноў, калі не замянілі. Вязьні працуюць на дрэваапрацоўцы, зьбіваюць паддоны. Ёсьць швачны цэх, ёсьць цэх, дзе плятуць гамакі. Мне там давялося працаваць. Але заробкі там вельмі малыя. Па 10 тысяч. Толькі на швачнай вытворчасьці, калі добра працаваць, можна зарабіць тысяч 100 — гэта максымум».

ЭЎРАЗВЯЗ ПРА НАС

# СПАЧАТКУ ВЫЗВАЛЕННЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ, ПОТЫМ – ДЫЯЛОГ

НІЯКІ ЗМЯСТОЎНЫ ДЫЯЛОГ З УЛАДАМІ БЕЛАРУСІ НЕМАГЧЫМЫ, ПАКУЛЬ НЕ БУДУЦЬ ВЫЗВАЛЕНЫЯ І АДНОЎЛЕНЫЯ Ў СВАІХ ПРАВАХ УСЕ ПАЛІТЫЧНЫЯ ЗНЯВОЛЕНЫЯ. АБ ГЭТЫМ ЗАЯВІЛА БЕЛАПАН КІРАЎНІК ПРАДСТАЎНІЦТВА ЕС МАЙРА МОРА, КАМЕНТУЮЧЫ ВЫКАЗВАННІ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ, ЯКІ АБВІНАВАЦІЎ ЗАХАД І АПАЗІЦЫЮ Ў ЗРЫВЕ ДЫЯЛОГУ З УЛАДАМІ.

«Пасля мер дзеля задушэння грамадзянскай супольнасці, палітычнай апазіцыі і незалежных СМІ, якія адбыліся пасьля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, ЕС не заставалася нічога іншага, як прытрымлівацца жорсткай пазіцыі, — сказала Мора. — Застаючыся прыхільнікам палітыкі крытычнага ўзаемадзеяння, у тым ліку праз дыялог і Усходняе партнёрства, Рада замежных справаў 31 студзеня 2011 года вырашыла аднавіць абмежавальныя меры ў дачыненні да Беларусі. Адначасова ЕС узмацніў сваё ўзаемадзеянне з беларускім народам і грамадзянскай супольнасцю праз умацаванне падтрымкі грамадзянскай супольнасці і ахвяр рэпрэсій».

«Еўрасаюз прапанаваў Беларусі пачаць перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі і пачаў дыялог з беларускім грамадствам аб мадэрнізацыі. Аднак ніякі змястоўны дыялог з уладамі немагчымы, пакуль не будуць вызваленыя і аднаўленыя ў сваіх правах ўсе палітычныя зняволеныя, якія засталіся. ЕС гатовы паляпшаць і паглыбляць свае адносіны з Беларуссю. Для ЕС Беларусь — важны сусед, неад'емная частка еўрапейскай спадчыны і еўрапейскай супольнасці нацый. Для Беларусі ЕС — адзін з асноўных гандлёвых партнёраў і важны партнёр у галіновым і рэгіянальным развіцці. ЕС па-ранейшаму гатовы дапамагаць Беларусі ў справе дэмакратызацыі і мадэрнізацыі», — падкрэсліла Мора.

**"Наша Ніва".**

ЧАРГОВАЕ ПАСЛАННЕ

# ЛУКАШЭНКА УЗБРОІЎСЯ ФІЛАСОФІЯЙ ВЯЛІКАГА ІНКВІЗІТАРА

***З трыбуны Авальнай залы Аляксандр Лукашэнка бліснуў цытатай з Дастаеўскага. Але звярніце ўвагу, што дасталі спічрайтэры з неабсяжнай спадчыны рускага класіка для тэксту штогадовага звароту да народа і парламента. Быў выдраны абрывак фразы аб тым, што «няма для чалавека нічога невыноснеи свабоды».***

***Так, у гэтым выступе 8 мая ў Доме ўрада гучалі і тэзісы аб разняволенні ініцыятывы, гатоўнасці вучыцца дэмакратыі. Але ключавой уяўляецца менавіта гэтая цытата.***

***Філасофія беларускай улады чужая, антаганістычная такой фундаментальнай каштоўнасці, як свабода. Народ уяўляецца неразумным дзіцёнкам, за якога ўсё належыць вырашаць мудраму і ўсемагутнаму бацьку нацыі. І таму з Еўропай, багацце якой заснавана на волі, рэжым заўсёды будзе гаварыць на розных мовах.***

## Еўропе прапануецца грубы чэнж

І ўсё ж у выступе 8 мая відавочна заўважалася жаданне замірацца з праклятымі буржуінамі. Як адзначыў у каментары для Naviny.by палітычны аналітык Юрый Дракахруст, «акцэнт, зроблены на адносінах менавіта з Захадам, з'яўляецца сігналам, што беларускага лідэра некалькі гняце аднабаковая інтэграцыя». У той жа час, падкрэслівае наш суразмоўца, Лукашэнка «хацеў бы нармалізацыі адносін з ЕС і ЗША, зразумела, на ўмовах, блізкіх да яго пазіцыі запыту».

Запыт жа - дашчэнту прагматычны, зазямлены. Лукашэнка педалюе грубыя матэрыі, нагадваючы, што ў нас з ЕС вялікі аб'ём гандлю. Мэседж празрысты: прынцыпы прынцыпамі, але свабоду на хлеб не намажаш, а вы ж хочаце купляць нашу салярку, калій ... Яшчэ кіраўнік Беларусі падкрэсліў, што «нельга забываць аб іншых сферах нашага ўзаемадзеяння: спыненні нелегальнай міграцыі, наркатрафіку, кантрабанды, уключаючы незаконны абарот ядзерных, радыеактыўных матэрыялаў, зброі».

Вельмі адчувальны для слабанервных бюргераў набор кодавых слоў! Для ўзмацнення эфекту бумеранга ў адказ на санкцыі Мінск нядаўна нават злёгку папугаў заходніх суседзяў тым, што аслабляе фільтраванне нелегалаў. Глядзіце, маўляў, будзеце залішне наязджаць на «апошнюю дыктатуру Еўропы» - захлынецца мігрантамі ды наркотай!

Інакш кажучы, рэжым ўпарта хоча навязаць сябе заходнікам такім, які ён ёсць. З гэтымі зацыкленымі на сваіх каштоўнасцях дзівакамі беларускія ўлады не супраць жыць мірна, аказваючы некаторыя паслугі і нават робячы дробныя саступкі, але пры жалезным умове: **не перашкаджайце кіраваць краінай так, як мы хочам!**

З выступу ў выступ вандруе рытарычнае пытанне: ну каму мы перашкаджаем? Крыштальная мара беларускага кіраўніцтва - каб Стары Свет і Штаты з ім змірыліся, як змірыліся з Назарбаевым ці Аліевым. Добра гэтым багацейчыкам - нафтавым Бурацінам!

Але сінявокай рэспубліцы па шэрагу прычын не так прывольна. На думку менскага аглядальнікаміжнародніка Андрэя Фёдарава, да замірэння з Еўрасаюзам і Вашынгтонам беларускага кіраўніка штурхае не альтруізм, не прыліў дабрадушнасці, а дзеянне двух непрыемных фактараў. Першы - асцярога, што Крэмль ўзмоцніць (а ён напэўна ўзмоцніць) прэсінг. Другі - патрэба ў заходніх грошах: крэдытах для аддачы ранейшых даўгоў, а таксама - інвестыцыі для мадэрнізацыі, адзначыў аналітык у каментары для Naviny.by.

## У Пуціна няма рэсурсаў задушыць

Пры гэтым для Лукашэнкі крытычна важна не пасварыцца з новым-старым гаспадаром Крамля. Юры Дракахруст адзначае дзіўную скупасць паслання па частцы адносін з Расіяй і еўразійскай інтэграцыі: «Здавалася б, толькі ўчора заступіў на пасаду прэзідэнт саюзнай дзяржавы, які абвясціў стварэнне Еўразійскай саюза адным з прыярытэтаў свайго кіравання, у бліжэйшыя месяцы трэба будзе заключыць больш за 50 пагадненняў у рамках АЭП, якія ахопліваюць самыя разнастайныя сферы эканамічных адносін ... Аднак менавіта на гэтую тэму па сутнасці нічога не было сказана ».

Рызыкнем выказаць здагадку: Лукашэнка варожыць, як паводзе сябе Уладзімір Пуцін, наколькі рэзка паставіць пытанне платы па вэксалях гэтай самай еўразійскай інтэграцыі. Гэта псіхалагічнае напружанне, здаецца, прарвалася ў адказе Лукашэнкі на адзін з дэпутацкіх пытанняў. Маўляў, «калі нехта спадзяецца, што вось Пуцін прыйшоў - заўтра нас пачнуць душыць, пятлю на шыю накінуць, не дачакаюцца». Цікавая матывацыя: «Па-першае, для гэтага ў Пуціна няма рэсурсаў; па-другое, гэта сабе на шкоду».

Аналітыкі, аднак, прадказваюць трэння ўжо ў хуткім часе, і ў першую чаргу па частцы прыватызацыі. Лёгка расстаўцца з актывамі беларускае начальства не збіраецца. У гэтым плане паказальная завочная палеміка Лукашэнкі з нейкім неназваным «дзеячам у Расеі», які, маўляў, «вядучы перамовы аб акцыянаванні МАЗа, заявіў: Беларусь занадта вялікую цану заламала на перамовах».

«Не задавальняе - не хадзі сюды», - адрэзаў кіраўнік Беларусі. Пытанне, аднак, у тым, як тады выканаць ўмова атрымання крэдыту ЕўрАзЭС - прадаваць актываў на 2,5 мільярда даляраў у год. З расейцамі, як бачым, размова будуецца па прынцыпе «... а тытунь паасобку»; заходнікі ж па вядомых прычынах на беларускія прадпрыемствы не накінуцца.

## Ціхае спаўзанне ў Азіёпу

Лукашэнка не казаў адкрытым тэкстам аб вызваленні палітвязняў, што з'яўляецца галоўным патрабаваннем Еўрасаюза, але даручыў ураду «аператыўна падрыхтаваць праект закона аб амністыі, якую мы зможам прымеркаваць да нашага галоўнаму дзяржаўнаму святу - Дню незалежнасці». Такі шырокі жэст дазволіў бы ўладам захаваць твар, раствараўшы вызваляюцца палітвязняў («нягоднікаў», як выказаўся афіцыйны лідэр) у масе «годных людзей».

У адказ ЕС мог бы замарозіць, а потым і адмяніць санкцыі супраць рэжыму. Гэта значыць адкрутка адносін да стану на 18 снежня 2010 года, за дзень што ўміг паламаў ўсе разгон Плошчы, рэальная. Але не больш. Паводле прагнозу Андрэя Фёдарава, гэта будзе стабілізацыя на нізкім узроўні, «нейкі варыянт халоднага свету».

Аднак Менску патрэбныя заходнія грошы. І калі тут спадзяюцца на прыліў даляраў-еўрафунтаў асабліва ў абмен на тое, што ў сінявокай рэспубліцы «зноў не б'юць і не саджаюць за палітыку», то могуць пралічыцца, мяркуе Фёдараў.

Лукашэнка павесіў на апазіцыю і Захад зрыў планаў ўнутранай лібералізацыі. Прызнаўся, што пару гадоў таму ў вярхах абмяркоўвалася рэформа выбарчай сістэмы, разглядаўся варыянт выбараў у парламент па партыйных спісах.

Асобнае пытанне: чаму дружы, не схільны да рэзкіх рухаў Еўрасаюз, які абяцаў за больш-менш прыстойнае правядзенне прэзідэнцкіх выбараў 2010 года тры мільярды еўра, стаў раптам душыць? Гэта трэба было моцна паспрабаваць, беспрэцэдэнтна раскруціўшы махавік рэпрэсій, пасадзіўшы за краты на вялікія тэрміны больш чатырох дзясяткаў «дзекабрыстаў», у тым ліку некалькіх экс-кандыдатаў; зачысціўшы ў краіне ўсё, што яшчэ варушылася.

Але галоўнае пытанне вось у чым: а каму патрэбныя рэформы ў Беларусі? З кантэксту паслання выходзіць, што Брусэлю ды Вашынгтону. Але па справе краіну даўно варта апгрэйдзіць дзеля выратавання яе будучыні. Інакш - лёс паўкалоніі, вечнага прыдатка, змрочнай тэрыторыі на абочыне цывілізаванага свету.

Гэта не Захад загубіў працэс, гэта незмяняльная кіруючая вярхушка прыносіць у ахвяру перспектывы Беларусі дзеля пралангацыі свайго панавання. Пры нязменнасці «беларускай мадэлі» шлях адзін - «паўзучая, з воплескамі свавольства, але няўмольная інкарпарацыя ў Расію, ціхае спаўзанне ў Азіёпу», прагназуе Андрэй Фёдараў.

**Краіна ўперлася ілбом ў сцяну несвабоды - эканамічнай, палітычнай, духоўнай.** Улада спрабуе апраўдаць сваю замшэласць інтрыгамі ворагаў і нібыта негатоўнасцю беларусаў да жыцця без пугі.

Лукашэнка, як вядома, нават перасунуў пасланне, каб спічрайтэры дапрацавалі. Яны, трэба меркаваць, і вывудзілі цытату з Дастаеўскага аб нязноснасці волі. Стараліся, але, як прымеціла публіцыст Святлана Калінкіна, падставілі шэфа. Бо гэта не Дастаеўскі сказаў. У «Братах Карамазавых» гэтыя словы гучаць з вуснаў Вялікага інквізітара ў спрэчцы з Хрыстом. Які ўдар з боку класіка!

**Аляксандр Класкоўскі, БелаПАН.**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# МІЛІНКЕВІЧ ПРА ЎРАД У ВЫГНАННІ: «НЕ БАЧУ СЭНСУ»

ЛІДАР РУХУ «ЗА СВАБОДУ», КАНДЫДАТ АД АБ'ЯДНАНАЙ АПАЗІЦЫІ НА ВЫБАРАХ 2006 АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ — ПРА ІНІЦЫЯТЫВУ УЛАДЗІМІРА БАРАДАЧА АБ УРАДЗЕ Ў ВЫГНАННІ.

«Лёс Беларусі вырашаецца толькі ўнутры Беларусі. Не ў Варшаве, ці Вільні. Трэба працаваць з грамадствам тут. Я не бачу сэнсу ў такі прапановах. Усё, што магчыма рабіць з-за мяжы, і так робіцца.

Канечне, у апазіцыі ёсць праблемы. Яна маргіналізуецца і раздробленая, ад 2007 няма лідара, але іх не вырашаць такія штучныя ўтварэнні, як урад у выгнанні. Паўтаруся, што трэба рабіць усё магчымае менавіта тут.

Ад такога ўрада будзе, безумоўна, шкода беларускаму народу. Прапаганда таксама скарыстае гэта ў сваіх мэтах, што апазіцыя на замежныя грошы працуе за мяжой.

Гэта таксама выгадна і Маскве, калі апазіцыя з'едзе за мяжу».

***Чытаць цалкам* http://nn.by/?c=ar&i=73639**

НАШЫ ЗАРОБКІ

# ЧЫМ РАСПЛАЦЯЦЦА БЕЛАРУСЫ ЗА 500-ДАЛЯРАВУЮ ЗАРПЛАТУ?

ТЭМПЫ РОСТУ ЗАРПЛАТЫ ЗА ПЕРШЫЯ ТРЫ МЕСЯЦЫ ДЭМАНСТРУЮЦЬ, ШТО ПРЫ ЖАДАННІ ЎЛАДЫ МОГУЦЬ ДА КАНЦА ГОДА НАВАТ ПЕРАСЯГНУЦЬ ДАКРЫЗІСНЫ ЎЗРОВЕНЬ ЗАРПЛАТЫ Ў 500 ДАЛЯРАЎ. АЛЕ ЦІ ВЫТРЫМАЕ ТАКУЮ НАГРУЗКУ ЭКАНОМІКА?

«Нам ўсё ж такі на ўзровень 500 долараў да канца года трэба выходзіць, як мы і дамаўляліся», - заявіў Аляксандр Лукашэнка ў чацвер, прымаючы з дакладам старшыню Федэрацыі прафсаюзаў Леаніда Козіка. Тым часам сярэдняя заробатная плата па краіне ў сакавіку дасягнула амаль 400 даляраў (395), і вырасла ў параўнанні з сярэдняй зарплатай у студзені на 50 даляраў.

Сваю ролю ў гэтым згуляў не толькі намінальны рост рублёвай заробатнай платы (амаль на 280 тысяч рублёў або на 10%), але і ўмацаванне курсу - на канец студзеня ён складаў 8370 рублёў за даляр, а сакавіцкую зарплату мы пералічвалі ўжо па «акругленаму» курсе у 8000 рублёў.

Такіх тэмпаў цалкам дастаткова, каб да канца года дасягнуць і нават перасягнуць планку ў 500 даляраў пры «які стаіць курсе». Калі ж дадаваць па 50 даляраў, то з дакрызісным зарплатай можна ўжо «выходзіць» на парламенцкія выбары, якія, як плануецца, пройдуць у верасні.

Асноўным пытаннем росту даляравай заработнай платы з'яўляецца яе магчымае ўплыў на эканоміку і, перш за ўсё, фінансавую сферу. Бо, па меркаванні шматлікіх экспертаў, менавіта разгон зарплаты 2010 года паклаў на лапаткі фінансавую сістэму ў 2011 годзе.

Па выніках першага квартала 2010 года сярэдняя зарплата па краіне па сярэдняму за квартал курсе склала 357 даляраў супраць 364 даляраў у першым квартале бягучага года. Такім чынам, тэмп росту павінен быць прыблізна такім жа, як і ў 2010 годзе, пры практычна поўнай адсутнасці дэвальвацыі, што можа негатыўна адбіцца на стабільнасці фінансавай сістэмы.

### Бюджэт фарміруецца з дэфіцытам

Ужо сёння можна казаць аб уплыве росту заработнай платы на паказчыкі бюджэту. Рэспубліканскі бюджэт па выніках квартала фармуецца з дэфіцытам, прычым тэмп расходавання бюджэтных грошай на сацыяльную сферу (ужо выдаткавана амаль 23% ад плана) перавышае тэмпы выдаткаў на нацыянальную эканоміку (18,1%). Зрэшты, гэта дазволіла павялічыць разрыў у заработнай плаце ў такіх бюджэтных сферах, як адукацыю і ахову здароўя ў параўнанні з першым кварталам 2010 года. У адукацыі сярэдняя заработная плата за I квартал 2012 больш чым на 50 даляраў перавышае сярэднюю зарплату за I квартал 2010 года, у ахове здароўя - на 32 даляра. Хоць, адзначым, што дадзеныя Белстата за першы квартал 2010 дадзены па галінах эканомікі, а не па відах эканамічнай дзейнасці, па якіх Белстат лічыць заработную плату ў апошні час.

**Ірына Арлова, www.zautra.by**

ПРАБЛЕМЫ ЭКАНОМІКІ

# БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖСЕКТАР: СКАРАЦІЦЬ НЕЛЬГА ПАКІНУЦЬ

БЕЛАРУСЬ СЁННЯ ДЭКЛАРУЕ, ШТО ПРАКТЫЧНА КОЖНАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА МОЖА БЫЦЬ ПРАДАДЗЕНА. АДНАК, ІСНУЮЦЬ ВЯЛІКІЯ СУМНЕВЫ, ШТО ЎЛАДЫ ПОЙДУЦЬ НА НЕЙКУЮ МАШТАБНУЮ ПРЫВАТЫЗАЦЫЮ - ІСНУЮЧАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ МАДЭЛЬ, ЯК ПАКАЗВАЮЦЬ ФІНАНСАВЫЯ ПАКАЗЧЫКІ, ЦАЛКАМ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ПРАЦЫ ДЗЯРЖСЕКТАРА. ІНТЭРНЭТ-ГАЗЕЦЕ NAVINY.BY ЎДАЛОСЯ ДАВЕДАЦЦА, ЯКУЮ РОЛЮ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІЦЫ ГУЛЯЮЦЬ СЁННЯ ДЗЯРЖПРАДПРЫЕМСТВЫ. ІХ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ЗАПАТРАБАВАЛА Б КАРЭННАГА ПЕРАГЛЯДУ ЭКАНАМІЧНАЙ МАДЭЛІ, ЯКАЯ СКЛАЛАСЯ Ў КРАІНЕ.

### Эканоміка з дзяржаўным тварам

Каб ацаніць уплыў дзяржсектара на беларускую эканоміку, дастаткова зірнуць на тое, хто кантралюе ў краіне асноўныя аб'ёмы прамысловай вытворчасці.

У грашовым выражэнні, нагадаем, аб'ём прамысловай вытворчасці склаў у 2011 годзе амаль 337 трл. рублёў. У тым ліку, як атрымалася высветліць інтэрнэт-газеце Naviny.by, на долю дзяржсектара ў мінулым годзе прыйшлося больш за 70% прамысловай вытворчасці. Амаль 4000 дзяржаўных прадпрыемстваў (і арганізацый з доляй дзяржуласнасці), якія ўлічваюцца афіцыйнай статыстыкай, зрабілі ў мінулым годзе прадукцыі на 242,5 трлн. рублёў.

Паказальна, што найбольшы аб'ём прадукцыі вырабілі дзяржпрадпрыемствы Гомельскай і Віцебскай абласцей (адпаведна, на 61,4 трлн. і 50,9 трлн. рублёў), што заканамерна - у названых абласцях размяшчаюцца нафтаперапрацоўчыя заводы. Дарэчы, доля канцэрна «Белнафтахім», якому падведамных беларускія НПЗ, у агульным аб'ёме прамвытворчасці склала ў 2011 годзе 29,8%.

Яшчэ адна важная адметная асаблівасць беларускага дзяржсектара - высокая занятасць. У сценах дзяржпрадпрыемстваў, а таксама ў арганізацыях з дзяржлоляй працавала ў 2011 годзе парадку 1,75 млн. чалавек. Гэта больш за палову (50,8%) ад спісачнай колькасці работнікаў ўсіх (за выключэннем суб'ектаў малога прадпрымальніцтва недзяржаўнай формы ўласнасці) беларускіх арганізацый.

Што тычыцца ўнёску дзяржсектара ў паказчыкі знешняга гандлю (экспарту), то тут важна ўлічваць адну акалічнасць. Асноўныя экспартныя патокі Беларусі ідуць праз арганізацыі, якія фармальна з'яўляюцца прыватнымі («Беларуская калійная кампанія», «Беларуская нафтавая кампанія»). Адсюль, дарэчы, вось такі парадокс: экспарцёрамі беларускіх нафтапрадуктаў з'яўляюцца ... суб'екты малога прадпрымальніцтва. У 2011 годзе гэтыя самыя суб'екты накіравалі на экспарт 13,27 млн. тон нафтапрадуктаў (усяго было экспартавана ў мінулым годзе 15,6 млн. тон нафтапрадуктаў).

### Дзяржсектар Беларусі: як ён працуе

Аднак прыведзеныя дадзеныя зусім не азначаюць, што ўсе дзяржаўныя прадпрыемствы здольныя генераваць прыбытак. Эксперты Сусветнага банка, праанализаваўшыя становішча спраў у рэальным сектары эканомікі Беларусі, прыйшлі да высновы, што дзяржаўныя вытворчыя аб'яднанні дазваляюць маскіраваць стратнасць адных прадпрыемстваў за кошт прыбытку іншых.

«Вертыкальная інтэграцыя дазваляе маскіраваць неэфектыўнасць ўнутры дзяржпрадпрыемстваў, так як прыбытковыя кампаніі займаюцца крыжаваным субсідаваннем стратных», - гаворыцца ў даследчай працы экспертаў Сусветнага банка, прысвечанай становішчу дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў у машынабудаўнічай галіны Беларусі.

У сваёй працы, якая вясной гэтага года была апублікавана на сайце Сусветнага банка, эксперты падрабязна распісваюць схему, якая дазваляе неэфектыўным беларускім дзяржпрадпрыемствам жыць за кошт іншых.

Праанализаваўшы дзейнасць машынабудаўнічых прадпрыемстваў, эксперты прыйшлі да высновы, што прыватныя і дзяржаўныя прадпрыемствы ва ўмовах Беларусі паводзяць сябе па-рознаму.

Калі падзенне попыту прыводзіць да падзення продажаў і прыбытку, гаворыцца ў даследаванні, прыватныя прадпрыемствы зніжаюць занятасць і аб'ёмы вытворчасці, павялічваючы тым самым прадукцыйнасць. «У той жа час дзяржпрадпрыемствы не зніжаюць колькасць занятых, і, такім чынам, калі зніжаецца іх прыбытак, зніжаецца і прадукцыйнасць», - адзначаюць у сваім даследаванні эксперты Сусветнага банка.

Паводле інфармацыі Naviny.by, да гэтага часу Сусветны банк падрыхтаваў новы краінавы эканамічны мемарандум, у якім як раз і разглядаецца эфектыўнасць прыватных і дзяржаўных прадпрыемстваў Беларусі. Па наяўнай інфармацыі, эксперты банка, праанализаваўшы стан рэальнага сектара эканомікі Беларусі, прыйшлі да высновы, што нашай краіне варта пайсці на трансфармацыю дзяржсектара.

**Дзмітрый Заяц.**

ПРАПАНОВЫ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

# ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ ШУКАЮЦЬ ВЫХАД З ЗАКАНАДАЎЧАГА ТУПІКА

У БЕЛАРУСІ РАСПРАЦАВАНЫ ПРАЕКТ ЗАКОНА АБ ІНДЫВІДУАЛЬНЫМ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВЕ. АЎТАРАМІ ПРАЕКТУ ВЫСТУПІЛІ ЭКСПЕРТЫ РГА «ПЕРСПЕКТЫВА». ЯК РАСТЛУМАЧЫЎ NAVINY.BY КІРАЎНІК ГРАМАДСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ АНАТОЛЬ ШУМЧАНКА, «ЗАКАНАДАЎЧАЕ РЭГУЛЯВАННЕ ІНДЫВІДУАЛЬНАЙ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ Ў БЕЛАРУСІ ЗАЙШЛО Ў ТУПІК. ПРЫ ГЭТЫМ КОЛЬКАСЦЬ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ ЖАДАЮЧЫХ ПРАЦАВАЦЬ У БЕЛАРУСІ СКАРАЧАЕЦЦА З ГОДА Ў ГОД».

### Па шляху стагнацыі

Паводле экспертных ацэнак, з-за леташняга крызісу беларускі бізнэс страціў да 60% абаротнага капіталу. Нягледзячы на пазітыўныя тэндэнцыі ў эканоміцы ў гэтым годзе прадпрымальніцкі сектар стагнуе, што і пацвярджаюць дадзеныя афіцыйнай статыстыкі.

У студзені-сакавіку 2012 года колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў у Беларусі зменшылася на 5,4% у адносінах да аналагічнага леташняга перыяду і склала 246.155 чалавек.

Зніжэнне колькасці ІП адбылося ва ўсіх рэгіёнах, за выключэннем Мінска, дзе колькасць прадпрымальнікаў вырасла на 0,6% да 73 353. У Брэсцкай вобласці зарэгістравана 34.087 ІП (на 5,1% менш), у Віцебскай - 25.824 (на 12,5%), Гомельскай - 27 339 (9,8%), Гродзенскай - 28376 (на 7,1% ), Мінскай - 34 102 (на 7,6%), Магілёўскай - 23.074 (на 4,7%).

Па словах Анатоля Шумчанка, «дзяржава нас ва ўпор не бачыць. А грамадству між тым прадастаўляецца прыгожая карцінка праз дзяржСМІ. Прычым, прадпрымальнікаў лічаць, як быдла - па колькасці галоў. Ідзе проста канстатацыя фактаў: ІП у краіне столькі, падаткаў заплацілі столькі-то. Але такое стаўленне нас не задавальняе ».

Кіраўнік «Перспектывы» лічыць, што раз улады так заўзята імкнуцца даводзіць да прадпрыемстваў і чыноўнікаў планавыя паказчыкі, няўдрэнна было б збянтэжыць чыноўнікаў і планавымі паказчыкамі па развіцці сектара ІП. «І хай яны даюць справаздачу, апраўдваюцца, чаму малы бізнэс у краіне не развіваецца», - адзначае Шумчанка.

Але чыноўнікі сёння заклапочаныя іншымі праблемамі, сярод якіх асабняком стаіць пытанне напаўнення бюджэту. І вырашаючы гэтае пытанне, чыноўнікі ніяк не могуць спрыяць развіццю прадпрымальніцтва. Бо грошы, а сумы-то не капейкавыя, выпампоўваецца як раз з малога бізнэсу. Якое тут развіццё?! І шматлікім чыноўнікам абсалютна фіялетава, што з-за зніжэння пакупніцкай здольнасці ў прадпрымальнікаў падаюць выручка і абаротны капітал.

«У Гомелі, напрыклад, у апошні час значна вырасла колькасць праверак. Праходзяць штодзённыя рэйды, выносяцца рашэння аб канфіскацыі тавараў за розныя парушэнні і налічваюцца велізарныя штрафы - ад 10 да 30 млн. рублёў », - распавёў прадпрымальнік з Гомеля Жанна Губкіна.

Па словах прадпрымальніка, такую актыўнасць правяраючых некаторыя ІП звязваюць з «Дажынкамі», якія, як чакаюцца, пройдуць у наступным годзе ў Гомелі. «Прайшла інфармацыя, што гораду трэба каля 450 млрд. рублёў, і гэтыя грошы будуць збіраць з ІП», - адзначыла Губкіна.

Гомельскія чыноўнікі, па словах Жаны Губкіна, знаходзяць і больш арыгінальныя спосабы канфіскацыі сродкаў у бізнэсу: «Напрыклад, прадстаўнікоў бізнесу, якія маюць гандлёвыя кропкі, у прыватнасці, крамы, размешчаныя побач са святлафорамі, абавязваюць гэтыя святлафоры абслугоўваць».

Прадпрымальнік патлумачыла, што святлафоры святлодыёдныя і, мабыць, не разлічаны на маразы, а таму часта выходзяць з ладу. Для горада іх абслугоўванне - гэта вялікія выдаткі. «Вось улады і вырашылі павесіць гэтыя святлафоры на бізнес, каб ён нёс гэтыя выдаткі», - падкрэсліла Губкіна.

**naviny.by**



**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.05.2012 у 19.30.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.